**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 23 (739) 5 чэрвеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае





Фота Ул. Скрабатуна.

Ежы Каміньскі, рэдактар газеты “Powiatowa” (Польшча), даўно марыў наведаць Беларусь і Глыбоччыну ў прыватнасці.
– А ці ведаеце вы газету “Вольнае Глыбокае”? – пытае ён парафіянак удзелаўскага касцёла.
– Ведаем! Шкада, што не можна яе цяпер выпісаць праз пошту! – скардзяцца парафіянкі.

Аршанскі раён

# Жыллё цяпер раскоша

■ Чэслаў Якубовіч

**Апошнім часам беларускія будаўнікі даказалі, што сярод іх шмат сапраўдных прафесіяналаў, здольных узводзіць самыя складаныя і прыгожыя аб'екты.**

Вось і ў Аршанскім раёне ёсць трывалая база галіны і тут умеюць будаваць. Своеасаблівай візітоўкай горада над Дняпром сталі сучасныя Лядовая арэна, не пазнаць стала абноўленыя будынкі чыгуначнага і аўтавакзалаў, гарманічна выглядае цэнтральная гасцініца. Мясцовае будупраўленне стала пераможцам нацыянальнага конкурсу за лепшыя дасягненні года. Сёлета мясцовыя будаўнікі неўзабаве здадуць і буйны лагістычны цэнтр па суседстве з аэрадромам Аршанскага авіярамонтнага завода. Яны паспяхова праводзяць рэканструкцыю фабрык льнокамбіната, узвялі сучасную кандытарскую фабрыку "Сладкая страна". Таксама ў завяршальную стадыю ўвайшлі работы па будаўніцтве новага корпуса на Арэхаўскім льнозаводзе, дзе ўжо змантавалі сістэмы вентыляцыі і цеплазабеспячэння. І тым больш дзіўна, што на Аршаншчыне цяпер найбольш у вобласці засталося шматкватэрных дамоўдаўгабудаў з перавышэннем нарматыўных тэрмінаў. Нават у абласным цэнтры застаўся толькі адзін такі аб'ект, які кіраўніцтва краіны абавязала кроў з носу здаць да 1 ліпеня. А вось у Оршы навасёлы двух праблемных шматпавярховак чакаюць, калі змогуць атрымаць ключы ад сваіх кватэр. Праўда, у мікрараёне Задняпроўе-3 засталіся толькі аддзелачныя работы на 12-павярховым доме на 144 кватэры. Як і ў іншых рэгіёнах, з уводам дамоў спазніліся з-за несвоечасовага і нерытмічнага фінансавання работ. Ды і ў перспектыве на будоўлях будзе цішыня, паколькі людзі не ў стане ўзводзіць камерцыйнае жыллё без дзяржпадтрымкі.

Пастаўскі раён

# Рост, які не радуе

■ Кастусь Александровіч

**Вось ужо працяглы час не ўдаецца стабілізаваць сітуацыю ў айчыннай эканоміцы з-за высокай канкурэнцыі і стагнацыі на рынках дзяржаўпартнёраў.**

Гэтых праблем не пазбегнуў і буйны Пастаўскі раён, дзе на 9 мясцовых прадпрыемствах вырабляюць болей трохсот відаў прадукцыі. Па выніках 1-га квартала тут усе спрацавалі з прыбыткам, прадоўжыўся і эканамічны рост. Аднак ужо ў пачатку лета складскія запасы выраслі амаль у 3 разы і перавысілі 31 млрд. рублёў, упала выручка вытворцаў. Практычна цэлы месяц прастойваў завод радыёкампанетаў "Беліт" з холдынга электронікі "Гарызонт", які сам у крызісе. Нечакана ў няпростым становішчы з-за складанай сітуацыі ў Расіі апынуўся малочны завод, у якога на складах скапілася 14 тон непрададзенага масла і больш 500 тон розных сыроў на 18 млрд. рублёў. Праўда, завадчане змаглі знайсці новых партнёраў – буйныя гандлёвыя сеткі Краснадарскага краю і Новасібірска і заключылі кантракты, сваю прадукцыю рэалізуюць. А вось Варапаеўскаму заводу ЖБВ прыходзіцца цяжэй, бо трэст "Полацксельбуд" не можа разлічыцца за адгружаныя пліты перакрыцця для ўзводзімых жылых дамоў. З рэзкім падзеннем попыту сутыкнулася і прадпрыемства "Паставымэбля", Варапаеўскі ДАК, хоць у пастаўчан стала нядрэнна разыходзіцца па краіне новая мэбля для піўных бараў. Няпростае становішча і на мясцовым льнозаводзе з-за дрэннай якасці сыравіны. І толькі два прадпрыемствы дрэваапрацоўкі – ПМЦ і вытворча-мэблевы цэнтр адчуваюць сябе ўпэўнена на розных рынках збыту, але яны прыватныя і могуць разлічваць толькі на свае сілы, у адрозненне ад дзяржсектару.

Полацкі раён

# Амаль паўгода без зарплаты

■ Станіслаў Раманчук

**Своеасаблівым адкрыццём сёлетняга чэмпіянату Беларусі па футболе ў вышэйшай лізе стала ўпэўненая гульня каманды наваполацкага "Нафтана".**

Пад кіраўніцтвам новага маладога галоўнага трэнера Валерыя Стрыпейкіса навапалачане ўстанавілі клубны рэкорд і адзіныя ў краіне згулялі першыя 8 тураў без паражэнняў. Клуб аказаўся ў групе лідараў і выйграў нават першы тайм на сучаснай "Барысаў-арэне" ў знакамітага БАТЭ. Не без дапамогі суддзяў барысаўчане пасля перапынку ўсё ж вырвалі перамогу ў "нафтанаўцаў". Здавалася б, справы ў іх наладзіліся, аднак гэта не так. Адзін з вядучых ігракоў паўабаронца Валерый Жукоўскі паведаміў СМІ, што камандзе з пачатку года не плацілі зарплату, а кармілі толькі абяцаннямі гэта зрабіць. Нягледзячы на такія адносіны да клуба, яго футбалісты сумленна робяць сваю справу. Між тым адносіны да спартсменаў увогуле ў рэгіёне дзіўныя. Горад Наваполацк не жадае перадаць камандзе запушчаны гарадскі стадыён, яго федэрацыя не дапусціла для правядзення гульняў і некалькі сваіх дамашніх матчаў "Нафтан" вымушаны быў правесці ў Віцебску і заплаціць дзясяткі млн. рублёў за права арэнды поля. Сітуацыя ў суседнім Полацку яшчэ больш сумная. Пасля аб'яднання там горада з сельскім раёнам райвыканкаму стала напляваць на полацкую каманду майстроў першай лігі. Летась фактычна ФК "Полацк" развалілі, мясцовыя аматары дагулялі другі круг нацыянальнага першынства і вылецелі ў 2-ю лігу. Аднак у гэтым годзе горад з насельніцтвам 80 тысяч чалавек не змог выставіць сваю каманду нават у трэцім па значэнні айчынным дывізіёне. Ніхто не клапоціцца пра полацкі стадыён "Спартак", на якім у чэмпіянаце вобласці сталі гуляць ігракі мясцовага райгаза.

## Надвор'е ў Глыбокім www. rp5ru

| | Чацвер 05.06.14 | | | | Пятніца 06.06.14 | | | | Субота 07.06.14 | | | | Нядзеля 08.06.14 | | | | Пн.09.06.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 | 20 | 02 | 08 | 14 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +17 | +22 | +20 | +15 | +16 | +21 | +19 | +12 | +17 | +22 | +21 | +15 | +19 | +24 | +22 | +16 | +19 | +24 |
| Ціск | 750 | 751 | 751 | 752 | 754 | 755 | 755 | 755 | 755 | 755 | 755 | 754 | 754 | 754 | 755 | 755 | 755 | 756 | 756 |
| Вільготнасць | 95 | 85 | 53 | 69 | 94 | 85 | 47 | 66 | 92 | 74 | 41 | 65 | 87 | 74 | 45 | 62 | 87 | 78 | 44 |
| Вецер м/сек | 3 Ю-В | 2 Ю-В | 3 Ю | 3 Ю-З | 2 С-З | 3 С-З | 5 С-З | 3 З | 1 З | 1 Ю | 3 Ю-З | 1 Ю-З | 3 Ю-З | 1 З | 5 С-З | 3 С-З | 3 Ю-З | 5 С-З | 6 С-З |

# Аб самым надзённым

## УКРАІНЦЫ ПАЦВЕРДЗІЛІ СВОЙ ЕЎРАПЕЙСКІ КУРС І НЕ ДАЗВОЛІЛІ КРАМЛЮ САРВАЦЬ СВАЕ МАЙСКІЯ ВЫБАРЫ




■ Аляксандр Цішкевіч

**Бліжэйшы час пакажа, ці з'явіцца агульны эканамічны рынак рускіх, казахаў і беларусаў, бо пэўныя канфіскацыі і абмежаванні засталіся. Беларускае кіраўніцтва спадзяецца, што наша краіна захавае ролю ранейшага зборачнага цэха часоў СССР у новым фарміраванні ЕАЭС.**

Вось ужо амаль паўгода мы застаёмся сведкамі вельмі вострага супрацьстаяння, а па-сутнасці вайны новага тыпу паміж бліжэйшымі суседзямі Расіі і Украіны. Непрыкрытая агрэсія Крамля пасля анексіі Крыма супраць украінскай дзяржавы толькі ўзрасла. З расійскай тэрыторыі яшчэ больш актыўна сталі з баямі прарывацца групы добра ўзброеных тэрарыстаў, якіх маскоўскія тэлеканалы з любоўю называюць "апалчэнцамі". Сеяць хаос і тэрор стала, на жаль, ужо стылем паводзін рускіх псеўдапатрыётаў, якія ніяк не жадаюць станавіцца нармальнай краінай, усё болей нагадваюць ранейшую "імперыю зла".

У такой сітуацыі нават самы блізкі саюзнік Масквы, даўні беларускі лідар назваў "нікчэмнымі" ўсе дзеянні самаабвешчаных дзеячаў рознага рангу, псеўдалідараў крымінальнага толку ў Данбасе. Напрыканцы мая на Украіне зрабілі важкі крок да нацыянальнай згоды і правялі досыць арганізавана пазачарговыя прэзідэнцкія выбары. Адначасова там былі абраны новы мэр украінскай сталіцы і дэпутаты Кіеўскага гарсавета, мэры шэрагу іншых гарадоў. За гэтым волявыяўленнем у няпростай сітуацыі сачылі амаль 3 тысячы міжнародных назіральнікаў, але не было такіх з Расіі і структур СНД.

Праўда, расіяне былі прадстаўлены ў складзе місій розных міжнародных арганізацый, назіралі за ходам галасавання, атрымоўвалі копіі пратаколаў. А тым часам паблізу ўкраінскай граніцы па-ранейшаму стаялі армады расійскіх войск, нягледзячы на заявы крамлёўскага разведзенага дзюдаіста аб адводзе часцей у месцы іх пастаяннай дыслакацыі. І вось чэсныя і дэмакратычныя выбары адбыліся, украінцы выбралі сабе новага, пятага па ліку прэзідэнта Пятра Парашэнку. МЗС Беларусі заявіла, што паважае выбар украінскага народа і гатова да далейшага канструктыўнага супрацоўніцтва са сваім суседам на абодвух берагах Дняпра.

Такое ж спадзяванне А. Лукашэнка выказаў у сваім віншаванні і Далі Грыбаўскайтэ, якую ўпершыню ў літоўскай гісторыі пераабралі на другі прэзідэнцкі тэрмін. На фоне таго, што Пуцін фактычна падштурхоўвае Украіну ў НАТА (каб гарантаваць захаванне тэрытарыяльнай цэласнасці краіны), беларусы пагадзіліся са стварэннем Еўразійскага эканамічнага саюза. Фактычна гэта азначае, што мы ў першую чаргу будзем выконваць ролю ваеннага фарпоста Масквы на заходнім накірунку, за што атрымаем пэўныя эканамічныя льготы і прэферэнцыі. Крэмль акажа дапамогу беларускаму лідару на выбарах восенню наступнага 2015 года – у гэтым сутнасць падпісаных у Астане дакументаў.

Бліжэйшы час пакажа, ці з'явіцца агульны эканамічны рынак рускіх, казахаў і беларусаў, бо пэўныя канфіскацыі і абмежаванні засталіся. Беларускае кіраўніцтва спадзяецца, што наша краіна захавае ролю ранейшага зборачнага цэха часоў СССР у новым фарміраванні ЕАЭС. Іншая справа, з кім мы цесна аб'ядноўваемся? Узровень расійскай эканомікі, напрыклад, цяпер супастаўвімы па аб'ёмах з італьянскай (4-й у Еўропе), а доля сучаснай расійскай інавацыйнай прадукцыі ў свеце складае толькі 0,5%. Для параўнання, аналагічная доля ЗША дасягае 36 % у сусветнай эканоміцы. Пра падобныя айчынныя паказчыкі трэба проста сціпла памаўчаць.

Аб'ядноўвае нас на постсавецкай прасторы нізкі ўзровень канкурэнцыі ў цэлым у эканаміцы, а ў шэрагу галін яўнае адставанне ад сусветных лідараў. Беларускія тавары ўсё цяжэй прадаюцца, прайграюць канкурэнтную барацьбу, а ўнутры Беларусі сведчаннем праблем у эканоміцы застаецца рост цэн. Вось і ў пачатку лета павысіліся тарыфы на тэлефонныя перамовы. З 1 ліпеня на грань выжывання пераходзіць айчынны прыватны бізнес на рынках, бо 120 тысяч чалавек там абавязалі мець дакументы на тавары.

Напрыканцы вясны для суайчыннікаў стала адной з самых балючых тэма мяснога дэфіцыту і падаражэнне ў маі амаль у два разы свініны. Асабліва ў рэгіёнах рэзка скараціўся мясны асартымент, падаражэла і мяса птушкі. Адчуваецца, што наступствы леташняй афрыканскай чумы свіней, якая зноў сёлета падымае галаву, усё ж адчувальныя. Гэта вам не жартачкі, бо ў 2013 годзе пагалоўе свіней у калгасах краіны скарацілася амаль на 20 %, а на панадворках насельніцтва – напалову, а ўвоз таннай сініны з ЕС цяпер прыпынілі. Гэтых праблем, дарэчы, не ведаюць нашы суседзі ўкраінцы, якіх чакаюць і датэрміновыя парламенцкія выбары. Як будуць далей разгортвацца ўкраінска-расійскія адносіны, цяжка спрагназаваць, але партнёрскімі і сяброўскімі яны ў бліжэйшай перспектыве дакладна не стануць. Для нас важна, каб Украіна засталася важным гандлёвым партнёрам, бо з любым суседам лепш жыць у згодзе.

## Дзень за днём

**Урад Беларусі прызнаў, што ранейшая мадэль развіцця айчыннай эканомікі сябе вычарпала. Для беларусаў зноў павысіліся на 9-20 % тэлефонныя тарыфы, цэны на цыгарэты, а свініна падаражэла амаль у 2 разы. Сёлета ўжо канфіскавалі 125 транспартных сродкаў, у тым ліку снегаход, за паўторную язду на падпітку. Медустановы краіны і надалей будуць лячыць алкаголікаў бясплатна. Плацёжнымі тэрміналамі вырашылі аснасціць усе кіёскі і таксі. Мінск пабіў сусветны рэкорд па колькасці гледачоў на матчах чэмпіянату свету па хакеі. Сем з васьмі беларусаў запланавалі свае водпускі на лета.**

# Важнейшыя навіны свету

**Украіна**. На датэрміновых выбарах прэзідэнта пераканаўча перамог ужо у 1-м туры Пётр Парашэнка, які паабяцаў навесці парадак у Данбасе і ўмацаваць сувязі з Еўрасаюзам.

**Бельгія**. Камісар ЕС па энергетыцы Г. Этцінгер пацвердзіў, што ў Еўрасаюза ёсць план дзеянняў на выпадак спынення паставак газу з Расіі, а Польшча за Энергетычны саюз ЕС.

**Расія**. Пасля абвастрэння адносін з Захадам У. Пуцін правёў перамовы ў Кітаі і паабяцаў за 5 гадоў павялічыць узаемны таваразварот да 200 млрд. $ з цяперашніх 90 млрд.

**Кітай.** Краіна значна выйграла ад зніжэння сусветных цэн на газ, але пастаўкі расійскага паліва пачнуцца сюды ў лепшым выпадку толькі напрыканцы 2020 года.

**Тайланд.** Кіраўніцтва арміі ажыццявіла ваенны пераварот, прыпыніла дзеянні законаў і Канстытуцыі, путч выклікаў заклапочанасць ААН, многіх краін свету, курорты апусцелі.

**Бельгія.** На выбарах у Еўрапарламент перамагла правячая Еўрапейская народная партыя, аднак шмат галасоў набралі і еўраскептыкі, і прыхільнікі антыміграцкіх поглядаў.

**Расія.** Падчас сутыкнення ў 80 км ад сталіцы грузавога цягніка з пасажырскім "Масква-Кішынёў" загінулі на станцыі Бекасава-1 6 чалавек, яшчэ дзясяткі людзей былі паранены.

**Украіна.** Шалёную ненавісць сепаратыстаў самаабвешчанай так званай ДНР выклікалі заклікі мільярдэра Рэната Ахметава поўнасцю ачысціць ад бандытаў з аўтаматамі Данбас.

**Егіпет**. Пасля 13 месяцаў судовага працэсу суд краіны пакараў экс-прэзідэнта Хосні Мубарака і двух яго сыноў 3 гадамі турмы за прысваенне грошай, злоўжыванні ўладай.

**Расія.** Адразу 34 вядучыя топ-менеджэры свету байкатавалі 18 міжнародны эканамічны форум у Санкт-Пецярбургу, з-за санкцый дзяржбюджэт РФ страціць сёлета 27,7 млрд. $.

**Нігерыя.** Падчас чаргоvага тэракту днём на рынку горада Джос загінула ад рук ісламістаў 118 чалавек, яшчэ 56 атрымалі раненні, у 3 штатах прадоўжылі надзвычайны стан.

**Францыя.** Пасля прэм'еры на Канскім кінафестывалі свайго фільма "Майдан" беларускі рэжысёр Сяргей Лазніца адмовіўся даваць інтэрв'ю хлуслівым расійскім СМІ.

**Канада.** Падчас свайго візіта наследны прынц Англіі Чарльз параўнаў прэзідэнта РФ У. Пуціна з фюрэрам Германіі А. Гітлерам, што выклікала глухое раздражненне Крамля.

**ЗША.** Кампанія Hewlett-Packard пачала выпуск танных 100-доларавых планшэтаў вагой 300 грам з 4-ядзерным працэсарам і картай памяці 8-гігабайт з дысплеем 7 дзюймаў.

**Бразілія.** У буйнейшых гарадах Сан-Паўлу і Рыа-дэ-Жанейра зноў прайшлі забастоўкі супраць правядзення чэмпіянату свету па футболе з 12 чэрвеня па 13 ліпеня.

## Цэны на кураціну паднялі з-за недахопу мяса



**Дэфіцыт свініны на беларускім рынку выклікаў павышэнне коштаў. Разам са свінінай падаражэла і кураціна. Цэны на яе паднялі, каб задаволіць попыт насельніцтва, заявіў падчас «прамой лініі» ў газеце «Рэспубліка» міністр эканомікі Мікалай Снапкоў.**

Паводле яго слоў, з-за ўспышкі АЧС ў Беларусі пагалоўе свіней у сельгасарганізацыях скарацілася на 20 %, а ў насельніцтва - амаль на 50%. Хутка папоўніць гэта пагалоўе нельга, і на рынку паўстаў дэфіцыт свініны.

- Як паказвае жыццё, калі мяса на рынку мала, яго заменнікам выступае кураціна. Але сёння мы маем іншую праблему: падняліся цэны на кураціну на расійскім рынку, і вытворцам стала значна больш выгадна адпраўляць мяса птушкі менавіта туды. Каб насыціць мясцовы рынак, мы і паднялі з 21 мая на 10 % цэны на мяса птушкі. Цяпер вытворцам стане выгадна накіроўваць прадукцыю на ўнутраны рынак, - патлумачыў міністр палітыку дзяржавы.

Пры гэтым Мінэканомікі па - ранейшым рэгулюе цэны на мяса - праз гандлёвыя надбаўкі. Снапкоў дадаў, што ў выпадку ажыятажнага попыту на мяса можа быць уведзена рэгуляванне цэн на 90 дзён.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Беларусы ў красавіку, як заявіў Нацбанк РБ, купілі на 89,9 млн. $ болей валюты, чым прадалі, аднак і валютныя дэпазіты насельніцтва за 4 месяцы выраслі да 7,5 млрд. $.

**Гродна.** Дзяржкамаёмасць РБ аб'явіў адбор па конкурсе інвестараў для ўдзелу ў будучай прыватызацыі дзяржпакета акцый ААТ "Гродна Азот" коштам 414 мільёнаў долараў.

**Салігорск.** Да канца года "Беларуськалій" адгрузіць у Індыю па кантракце 500 тысяч тон калійных угнаенняў, што ў 3 разы болей, чым летась, па цане 322 долары за тону.

**Мінск.** Беларусь, як паведаміў віцэ-прэм'ер У. Сямашка, зноў не змагла дамовіцца з Расіяй аб умовах стварэння аўтамабільнага альянса МАЗа з расійскім Камазам.

**Брэст.** Пасля візіту да гінеколага мясцовага філіяла сталічнага медцэнтра "Лодэ" памерла 21-гадовая дзяўчына, ёй далі ўкол і стала вельмі дрэнна, пачата следчая праверка.

**Мінск.** Па прадстаячай амністыі, як пацвердзіў міністр МУС І. Шуневіч, з турмаў на волю выйдуць 2100, з калоній-пасяленняў – 630 чалавек, няма планаў скарацiць колькасць ЛПП.

**Рагачоў.** Пасля абрушэння ноччу пліт перакрыцця ў будынку базы райпо адбылася ўцечка з халадзільніка 300 кг аміяку, аварыю ліквідавалі, але дзетсад часова не працаваў.

**Пружаны.** Шок у райцэнтры выклікала забойства вечарам пасля працы ў рэстаране 24-гадовай афіцыянткі, пасля гвалтавання яе цела падпалілі, засталася сіратой малая дачка.

**Мінск.** Па гарачых слядах міліцыя затрымала 60-гадовага неаднаразова судзімага, які п'яны нажом днём забіў 40-гадовую мінчанку ў летнім кафе універсама "Першамайскі".

**Слонім.** Падчас буры ўпала дрэва і абясточыла палову горада і 53 вёскі раёна, без света засталася райбальніца, прыйшлося падключыць аўтаномную крыніцу сілкавання.

**Мінск.** У інтэрв'ю тэлеканалу "Дождж" А. Лукашэнка назваў рэферэндум у Данбасе нікчэмным, прызнаўся, што год 30 не жыве з жонкай і думае аб пахаванні на радзіме.

**Пінск.** За перавышэнне сваіх службовых паўнамоцтваў і незаконныя ўказанні падначаленым арыштавалі начальніка мясцовай ДАІ, яму пагражае ад 3 да 10 гадоў турмы

**Гомель.** Ноччу даставілі ў бальніцу ў цяжкім стане комы двух гараджан ва ўзросце 30 і 33 гадоў пасля атраўлення наркатычнымі рэчывамі, перад імі паступіў яшчэ 18-гадовы юнак.

**Буда-Кашалёва.** З-за цёплага і вільготнага надвор'я распладзілася шмат вусеніц, яны знішчылі вялікі саўгасны сад вёскі Гусявіца, перакінуліся на агароды і дрэвы вяскоўцаў.

**Мінск.** Як і чакалася, галоўны трэнер канадзец Глен Хэнлан завяршыў працу з хакейнай зборнай Беларусі, пасля 7 месца на чэмпіянаце свету дома ёй пагражае вылет з эліты.

## Бальніцы працягнуць лячыць алкаголікаў бясплатна

■ БелаПАН

**Медыцынскія ўстановы будуць працягваць аказваць на бясплатнай аснове паслугі пацыентам, якія знаходзяцца ў стане алкагольнага ці наркатычнага ап'янення.**

Пра гэта заявіў старшыня камісіі па ахове здароўя, фізічнай культуры, сямейнай і маладзёжнай палітыцы палаты прадстаўнікоўАляксандр Цацоха 21 мая на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Як раней паведамлялася, сёння дэпутаты ніжняй палаты парламента прынялі ў другім чытанні папраўкі ў закон «Аб ахове здароўя». Адна з прапаноў па гэтым законапраекце прадугледжвала збіранне платы за аказанне медпаслуг нецвярозым пацыентам. «Гэтая папраўка тычылася выпадкаў, калі чалавек наносіць сабе ўрон шляхам спажывання алкаголю ці псіхатропных прэпаратаў, наркотыкаў, а затым трапляе ў бальніцу. Такая прапанова была, але ў выніку ад яе вырашылі адмовіцца», — паведаміў Цацоха.Прынятыя палатай прадстаўнікоў законапраект пашырае пералік выпадкаў давання інфармацыі, якая з'яўляецца доктарскай тайнай, без згоды пацыента.

Такая інфармацыя можа быць дадзена на падставе пісьмовага запыту страхавым арганізацыям, мясцовым органам ваеннага кіравання для мэтаў медыцынскага агляду грамадзян пры прызыве на воінскую службу, органам дазнання ў сувязі з правядзеннем экспертыз для вырашэння пытання аб распачынанні крымінальнай справы. Дакумент надзяляе ўрача-спецыяліста правам на адмову ад правядзення штучнага перарывання цяжарнасці пры наяўнасці пісьмовага інфармавання кіраўніка арганізацыі аховы здароўя, калі гэтая адмова не пагражае жыццю ці здароўю жанчыны.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Фарынава.** На месцы купленага камбіната домабудавання расійская кампанія "Прамбуд" да канца года запусціць новы завод па выпуску 12 тысяч тон металаканструкцый у год.

**Паставы.** У новым кандытарскім цэху райпо пачалі выпуск пірагоў "Фортэ" з тэрмінам захоўвання месяц, вялікі попыт на бісквіты, кексы і маффіны шокавай замарозкі.

**Ушачы.** Упершыню мясцовы прамкамбінат атрымаў ганаровае званне "Лідар галіны Рэспублікі Беларусь 2013 года" ў намінацыі "вытворчасць спецадзення".

**Орша.** У мясцовым філіяле электрасетак урачыста адкрылі мемарыяльную дошку ў гонар свайго славутага ветэрана майстра, Героя Сацыялістычнай Працы Аляксея Зверава.

**Лепель.** Амаль адна гадзіна пайшла ў выратавальнікаў МНС на тое, каб выцягнуць каня, які праваліўся ў двухметровы склеп на тэрыторыі былой фермы райаграсервіса.

**Шуміліна.** У адной з вёсак раёна падчас сумеснай выпіўкі моцна нецвярозы зяць пасварыўся з 68-гадовай тешчай у яе дома і не помню, як потым яе жорстка забіў.

**Браслаў.** На пункце пропуску "Урбаны" супрацоўнікі мытні выявілі і канфіскавалі ў беларуса, які ўвёз з Латвіі амаль паўтоны кантрабанднага адзення і абутку.

**Полацк.** На працягу двух дзён паблізу Сафійскага сабора ў рамках фестывалю сярэднявечнай культуры "Рубон" праходзіў фестываль кухні "Кулінарная спадчына".

**Віцебск.** Выпускнік гімназіі № 1 Ілля Саўчанка прывёз дамоў са Стамбула залаты медаль за перамогу на 23 Міжнароднай алімпіядзе экалагічных праектаў "Інего-2014" у Турцыі.

**Сянно.** Мясцовая каталіцкая парафія св. Тройцы атрымала дазвол улад устанавіць на спуску да гарадскога стадыёна скульптуры 12 апосталаў, якія ўжо выраблены ў Польшчы.

**Глыбокае.** Падчас урачыстасцей у РДК "Сем акордаў шчасця" бацькам 80 дзетак, якія нарадзіліся ў 2014 годзе, глава раёна А. Морхат уручыў юбілейныя памятныя сертыфікаты

**Браслаў.** Пасля чарговай прэм'еры спектакля "На Дняпроўскім рубяжы" мясцовы народны тэатр пачаў працу над новай пастаноўкай, вядомай усім п'есай "Любоў і галубы".

**Віцебск.** Каля 100 баксёраў з РБ, РФ, Літвы і Украіны ўдзельнічалі ў 1-м міжнародным турніры па боксе памяці заслужанага трэнера Беларусі Анатоля Колчына.

**Орша.** Побач з СШ № 8 да яе 60-гадовага юбілею ў рамках праекта "Родная Сторона – дзецям" адкрылі поле са штучным газонам для міні-футбола, яно 20-е па ліку ў Беларусі.

**Віцебск.** Невядомы мярзотнік украў альбо забіў у спецыяльным вальеры на рацэ Віцьба для пары лебедзяў адну птушку і сур'ёзна параніў другога белага прыгажуна.

*Служба інафрмацыі "ВГ".*



# Ён на выдатна прэзентаваў Глыбоччыну

## Адышоў у вечнасць Генадзь Комель

**На 81-м годзе жыцця адышоў у вечнасць Генадзь Трафімавіч Комель, апантаны краязнаўца, арганізатар вандровак па Беларусі. Ён годна, на выдатна, прэзентаваў экскурсантам прыгажосць і гісторыю роднай Глыбоччыны.**

**Уладзімір Скрабатун**

Завітаў нейк да аўтара гэтых радкоў адзін дзядзька з Мінска: у капялюшы і на старэнькіх, але дагледжаных "Жыгулях". Адбылося гэта мо шэсць, ці сем гадоў таму…

Яго прапанова была вельмі простай – паўдзельнічаць і дапамагчы яму ў арганізацыі вандровак па Глыбоччыне, Пастаўшчыне і Браслаўшчыне для мінскіх экскурсантаў.

– Ой, не! Чалавек я вельмі заняты! Праца над газетай займае шмат часу, не стае яго нават напісаць свой уласны артыкул. Гадамі ляжаць дыктафонныя запісы, рукі так і не дайшлі, і людзей тых ужо няма сярод нас… Не! Ды ў нас тут краязнаўцаў – дзясяткі! Я параю Вам заміж сябе годную замену.

– *Я хачу, каб менавіта ты мне дапамог!*

– Чаму?

– *Мне патрэбны надзейны памочнік. Разумееш, Валодзя, усе падобныя вандроўкі па Беларусі цікавяць спецслужбы, КДБ, напрыклад. Не хачу, каб быў сярод нас чужы.*

– Добра! Перакanалі!

Так адбылося маё знаёмства з Генадзем Трафімавічам Комелем, вядомым на Беларусі краязнаўцам і экскурсаводам.

Трафімавіч – так яго ўсе называлі – уражваў сваімі энцыклапедычнымі ведамі, толькі веды гэтыя былі ўзятыя не з прачытаных кніг, а з уласных даследаванняў, успамінаў бацькоў і дзядоў, сведчанняў старажылаў, з асабістага знаёмства з выбітнымі асобамі.

Перад тым, як праехаць экскурсантам на аўтобусе па пэўным маршруце, мы яго адпрацоўвалі да драбніцаў на яговых "Жыгулях. Ну, напрыклад, Глыбокае-Марцыбэліна*-Бушкі-Залессе-Верацеі-Гарадзец-Лужкі-Шаркоўшчына-Мосар-Удзела-Мярэцкія-Глыбокае.

А вы думаеце – у Марцыбэліне няма чаго глядзець? Так, але ёсць пра што слухаць! Напрыклад, пра пана, які свой маёнтак назваў у гонар сваёй дачкі Марцыбэлы. Зрэшты, ад таго маёнтка яшчэ дзе-нідзе засталіся рэдкія прысады з вялікіх дрэваў, нават адзін будынак яшчэ захаваўся…

* На шыльдах пішуць па рознаму, напрыклад, Марцыбыліна. Аднак, меркавана, трэба ўсё ж – Марцыбэліна.

Заязджалі ледзьве не ў кожную вёску, хадзілі па вуліцах, шукалі нейкі дом, распытвалі апошніх тубыльцаў. Атрымлівалася, што з кожнай вёскі паходзіла не адна выбітная асоба – то вядомы оперны спявак, то тэатральны дзеяч, то вайсковец, то навуковец… Натуральна, наведвалі і мясцовыя могілкі. Трафімавіч чытаў надпісы на помніках людзей, што спачываюць тут на сціплых вясковых могілках, тлумачыў, які след пакінуў кожны чалавек у мясцовай ці агульнабеларускай гісторыі.

Аднойчы завіталі ў вёску Губіна ля Асінагарадка… Пустыя хаты, вялізныя дрэвы на колішніх вуліцах, сады, дарогі і сцежкі – зараслі травой ледзьве не ў рост чалавека. Вёска-прывід. Ніводнай жывой душы! А што прывяло сюды? Тут нарадзіўся Антон Уладзіміравіч Станкевіч (1862-1919), герой Грамадзянскай вайны, генерал-маёр рускай арміі. У 1918-м добраахвотна ўступіў у шэрагі Чырвонай Арміі. Камандаваў дывізіяй на Паўднёвым фронце. У кастрычніку 1919 пад Арлом патрапіў у палон да дзянікінцаў, адмовіўся перайсці на іх бок і быў пакараны. Пахаваны ля Крамлёўскай сцяны. Пасля Губіна завіталі на вясковыя могілкі, дзе стаіць выдатнай работы помнік на магіле яго бацькі. У Асінагарадку і Паставах названы вуліцы ў гонар А. Станкевіча.

Вось так сур'ёзна, грунтоўна, падыходзіў Генадзь Комель толькі да аднаго канкрэтнага пункта на маршруце, які не зойме і хвіліну ў аповядзе экскурсавода, і мінём гэты, ужо не існы цяпер, населены пункт, нават не спынíўшыся.

А далей – Парыж! А ў тым Парыжы пастаўскім, мо й глядзець няма чаго! Але ж Парыж! Трафімавіч загадзя прадугледжвае – народ пажадае спыніцца тут на дзясятак хвілінаў. Будзе цэлая фотасесія на фоне шыльды з надпісам "Парыж" – і групавая, і персанальная. Фота на памяць – была (быў) я ў Парыжы!

Трэба сказаць, што Генадзь Комель быў добра вядомы ў асяродку мінскіх аматараў вандровак. Меў вялікую сталую групу. Сам добры экскурсавод, але меў і маладзейшых, якія практыкаваліся ў Трафімавіча не толькі ў якасці гідаў, але і ў якасці арганізатараў вандровак – трэба ж замовіць аўтобус у аўтапарку, сабраць з людзей унёскі, аплаціць рахункі. Ну, а людзі? Удзельнікі вандровак па Беларусі? Так, так – усе патрыёты краіны, беларускамоўныя, шмат хто насіў на адзенні значкі з выявай бел-чырвона-белага сцяжка і Пагоні. Людзі з рознай адукацыяй, рознымі пасадамі, нават і вельмі высокімі. Усіх іх сабраў і аб'яднаў Генадзь Трафімавіч Комель.

Памятаю, як гады тры таму, выязджаючы з Асінагарадка, дзе мясцовы бацюшка не вельмі ветліва абышоўся з жанчынамі – не пусціў у царкву ў штанах, а толькі тых, хто абачліва ўзяў з дому хусткі ды павязаў іх паверх джынсаў, то каб неяк суцешыць абураных жанчын, пачынаю апавядаць пра ўсе далейшыя цікавосткі, што чакаюць нас наперадзе: пра Мосар – беларускі Версаль, пра рамантычны водны млын у Казлоўшчыне, пра тамтэйшы стары і вялізны парк, пра капліцу-усыпальню князёў Друцкіх-Любецкіх…

Адзін з нямногіх мужчынаў (90%, як правіла – жанчыны) кажа: *"А можна я дапоўню?"*.

– Калі ласка!

– *Савецка-польская мяжа падзяліла маёнткі Друцкіх-Любецкіх. Адны засталіся на савецкім баку, іншыя – на польскім. Маладая князёўна, на белым кані, штораз пад'язджала да ракі, глядзела ўдалечыню. Над ракой слаўся туман. А там за ракой, за туманам, на даляглядзе, стаяў іхні пакінуты палац, дзе прайшло яе дзяцінства, дзе яна зрабіла першыя крокі, дзе знайшла сваё першае каханне... Яна прыязджала штораз і глядзела з сумам на той бераг ракі. Гэтага не маглі не заўважыць чырвоныя памежнікі. Аднойчы яны прабраліся праз раку і зладзілі засаду. Злавілі князёўну і згвалцілі, забілі ды пакінулі яе цела на зямлі. Усчаўся міжнародны скандал. А паміж бальшавікамі і палякамі ўжо была падпісаная адпаведная дамова аб спыненні абодвума бакамі розных канфліктаў. Пяцёх чырвоных памежнікаў, якія спрычыніліся да гібелі князёўны, арыштавалі і расстралялі…*

– А хто гэты чалавек, які так добра ведае гісторыю, нават такія акалічнасці з жыцця роду Друцкіх-Любецкіх?– пытаю ў Трафімавіча.

– *Хто, хто! Намеснік міністра (…) Рэспублікі Беларусь!– кажа спадар Комель.*

– І шмат тут у вас у аўтобусе "намеснікаў міністраў" ды яшчэ беларускамоўных, з добрым веданнем гісторыі?– жартуе аўтар гэтых радкоў.

– *Ды ўсе! Хто журналіст, хто паэт, хто канструктар, хто настаўнік, а хто і былы афіцэр, як я!*

Аб'ездзілі мы з Генадзем Трафімавічам і мінскімі экскурсантамі – усё што можна: Дзеркаўшчыну з касцёлам, які пабудаваў Лявон Дамейка – крэўны сваяк Ігната Дамейкі, нацыянальнага героя Чылі; у Малыя Давыдкі – да магілы Язэпа Драздовіча; Верхняе з яе драўлянай царквой; Друю – на самай мяжы з Латвіяй; Мёры; натуральна, Мосар; нават Канстанцінаў Двор, дзе яшчэ і цяпер ёсць руіны палаца Акушкаў, але ніколі не ступала нага турыста... Ды ўсюды былі! У Цэнтры Еўропы – на возеры Шо!

Гэтую паездку пару гадоў таму Генадзь Трафімавіч прэзентаваў прысутным як сваю апошнюю. Гады ўжо не тыя, каб штотыдня вандраваць па краіне!

Запомнілася гэтая паездка і мне, да сёння згадваю!

Прыехалі ў Цэнтр Еўропы на бераг возера Шо. Спякота несусветная! Усе нясцерпна хацелі купацца! Мужчынаў было чалавек сем-дзевяць з поўнага аўтобуса: кіроўца, я, Трафімавіч.., астатнія – жанчыны. А мінскія кабеты – без комплексаў! У імгненне вока – усе, у чым маці нарадзіла, стаяць! Неверагодна!!! Ды яшчэ падыходзяць і пытанні задаюць! Я сарамліва адварочваю галаву ў бок, а там – тое самае, яшчэ далей адварочваю галаву – на беразе адны голыя кабеты. І ўсе дружна – у возера. Праўда, і мужчынам потым адвалі пэўны час на купанне.

– Далейшая нашая мэта – возера Доўгае, самае Глыбокае на Беларусі!– тлумачу экскурсантам. – Нікому не купацца! Патонеце! Хто вас будзе даставаць з 54-метровай глыбіні!?

Ага! Паслухалі! Усе кабеты ізноў – нагола! І – у возера. Бедны Трафімавіч! Як не ўшчуваў, ніхто не паслухаў. У гэты момант ён нагадваў курыцу квактуху, якая вывела не куранят, а качанят, а тыя палезлі ў лужыну!

– Праязджаем возера Акунёва, на тым беразе быў фальварак, дзе нарадзіўся вядомы пісьменнік Тадэвуш Даленга-Мастовіч, які вядомы нам больш па экранізаваным творы "Знахар"...

– *Возера? Стоп, вадзіцель!*– кіруюць жанчыны.

Зноў – нагола і – у возера!

Нейкія два мужыкі на гумовай лодцы вудзілі недалёка рыбу... Пофіг тая рыба, пачалі вяславаць бліжэй, столькі русалак яны яшчэ не бачылі!

Вось такія вясёлыя экскурсанты былі ў Трафімавіча!

Шкада! Няма ўжо сярод нас Генадзя Трафімавіча Комеля. Шмат чаго яшчэ планавалася зрабіць, напісаць, наведаць... Застаўся яго голас на дыктафонных запісах, якія рабіліся ў часе вандровак па Глыбоччыне. Безумоўна, шмат якія сведчанні Генадзя Комеля яшчэ ўвойдуць у далейшыя публікацыі нашай газеты, хаця б у гісторыю вёсак. І шмат цікавага! У Старым Двары, напрыклад, ставілі спектакль "Пінская шляхта" па В. Дуніну-Марцынкевічу...

Ён быў адным з аўтараў краязнаўчых матэрыялаў у нашай газеце. І тут, найперш, трэба згадаць самую вядомую серыю яго публікацый пад агульным назовам "Ігнапаль і яго ваколіцы". Ігнапаль, гэта там, ля Узрэчча, дзе расце вельмі старая сасна-волат, якую ў народзе, чамусьці, клічуць "напалеонаўскай". Яна расце, нібыта, на магіле рускага генерала з войска генерала кавалерыі П.І. Платава, які загінуў у сутычцы з французамі ўлетку 1812 г. Яго жайнеры і насыпалі на магіле пагорак ды пасадзілі сасну. Вось у колькі сотняў крокаў ад той сасны-волата і стаяў дом, дзе нарадзіўся Генадзь Комель.

Ён ізноў вярнуўся на радзіму, але ўжо на вечны спачын...



**Мікуліна, 5.04.2010. Жыхарка вёскі Вера Крывёнак (у дзявоцтве Стахоўская) 1919 г.нр. згадвае пра легендарнага лужэцкага лекара Уладзіслава Шырана, беларускага патрыёта, які загінуў у чэрвені 1941 г на Дарозе Смерці Беразвечча-Ула падчас савецкага тэрору.**



**Узрэчча. – У гэтым доме пад нямецкай акупацыяй была школа,– кажа Генадзь Комель. – Я вучыўся ў ёй, пайшоў у першы клас. Заходзіць настаўнік у клас: "Жыве Беларусь!". Вучні ўстаюць з-за партаў з рымскім жэстам (выцягнутая наперад правая рука пад вуглом на левае вока): "Жыве вечна!" Дарэчы, некаторыя з настаўнікаў былі сувязнымі ў партызанаў, а праца ў школе была для іх прыкрыццём... Пазней дом абклалі белай цэглай.**

# Сяргей Праціраеў – чалавек, які сядзеў у Глыбоцкай вязніцы, і які выйшаў з "калідору смерці"

■ **ПЦ Вясна**

**Калідор смерці – гэта калідор у турэмных сутарэннях, дзе знаходзяцца камеры смяротнікаў, выхад адтуль адзін – на расстрэл. І выключэнняў амаль не бывае.**

У 1998 годзе ў Праваабарончы цэнтр "Вясна", які на той момант яшчэ меў назву "Вясна -96", былі перададзеныя лісты, напісаныя ў камеры смяротнікаў на "Валадарцы" і трапілі на волю праз "турэмную пошту".

Сярод іх быў ліст ад Сяргея Праціраева, датаваны 15.07.1998. **Сяргей Праціраеў** знаходзіўся ў камеры смяротнікаў у СІЗА №1 па вуліцы Валадарскага ў Мінску разам з **Іванам Фаміным.**

У лісце былі вершы пад назвай "Пісьмо, напісанае людзям", а таксама восем старонак, на якіх падрабязна выкладаліся акалічнасці крымінальнай справы, па якой Сяргей Праціраеў быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання


**СІЗА на Валадарцы.** *Фота Юлі Дарашкевіч.*

Аўтар ліста сцвярджаў, што яго справа была сфабрыкаваная нядобрасумленнымі следчымі, а таксама разважаў пра тое, чаму ў Беларусі існуе смяротнае пакаранне: *"Мы, беларусы, часта здзіўляліся фактам незаконна расстраляных па справе маньяка Міхасевіча ("Віцебская справа"). Але сёння людзей працягваюць расстрэльваць, каб паказаць народу, якая ў нас вядзецца барацьба са злачыннасцю. А што будзе далей, калі падобных мне "статыстаў" расстраляюць? Тады будуць страляць звычайных людзей, бо машына беззаконня набірае абароты, і хутка не будзе розніцы каго страляць, як у 1937 годзе".*

Напачатку 1999 года маці Івана Фаміна паведаміла, што яе сын расстраляны. І з гэтага лагічна вынікала, што расстраляныя і ўсе тыя людзі, якія разам з ім знаходзіліся ў камеры смяротнікаў.


P.S. „Письмо написанное людям"
Сижу за то, чего не делал
И всё видно по суду
Приговорил меня к расстрелу
За что?, лишь только не пойму
Поднял бумаги, что на волю
И смог их всё же передать
Там ясно, четко всё ведь видно,
Что меня незачто стрелять.
И коль была моя вина.
Хотел бы чтоб меня.
Как в той Чечне при людях всех
Стреляют пусть в меня
Где же закон в моей стране?

Але ў красавіку 1999 года ў "Вясну" прыйшоў ліст ад Сяргея Праціраева – ён пісаў з калоніі, якая знаходзілася ў горадзе **Глыбокім.** Смяротнае пакаранне яму было заменена на пажыццёвае зняволенне. Чаму? Ёсць меркаванне, што менавіта Сяргей Праціраеў з'яўляецца тым адзіным "смяротнікам", якога памілаваў прэзідэнт.

# За неабгрунтаваны выклік «хуткай» будуць штрафаваць на 400 тысяч

**Анатоль Тозік агучыў новыя ініцыятывы ўрада. За неабгрунтаваны выклік «хуткай» будуць штрафаваць на 400 тысяч.**

Віцэ-прэм'ер урада лічыць, што ў Беларусі неабходна ўвесці ліміт бясплатных зваротаў у дзяржаўныя паліклінікі, піша "Інтэрфакс".

"Трэба весці гаворку пра ліміт бясплатных наведванняў дзяржаўных паліклінік", – заявіў Анатоль Тозік у пятніцу ў Менску, адказваючы на пытанні дэпутатаў на сумесным пасяджэнні абедзвюх палат Нацыянальнага сходу Беларусі.

Аднак пры гэтым ён адзначыў, што абмежаванні не павінны тычыцца дзяцей і цяжарных жанчын. Тозік таксама яшчэ раз узняў пытанне аб тым, што людзі павінны аплачваць неабгрунтаваны выклік брыгады хуткай медыцынскай дапамогі.

"Будзем думаць, колькі гэта будзе каштаваць. Сёння адзін выезд хуткай дапамогі каштуе Br400-450 тыс. Я мяркую, што можна забіраць усю суму за неабгрунтаваны выклік хуткай дапамогі", – сказаў віцэ-прэм'ер.

Раней на пасяджэнні калегіі Міністэрства аховы здароўя ў пачатку 2014 года А.Тозік заявіў пра неабходнасць перагляду падстаў для выкліку лекараў. "Неабходна правесці глыбокую сістэмную аптымізацыю, істотна перагледзець падставы для выкліку лекараў, наведвання паліклінік, выкліку хуткай меддапамогі", – падкрэсліў тады віцэ-прэм'ер...

Ён таксама звярнуў увагу на тое, што "ўсе рашэнні па гэтым пытанні трэба падрыхтаваць і прыняць на працягу паўгода, правілы, якія існуюць тут, не працуюць або працуюць вельмі дрэнна".

"Гэта нармальна, калі чалавек 200 раз за год прыходзіць у паліклініку? Ходзіць туды як на працу. А мы прымаем яго. А які ж бюджэт вытрымае?" – сказаў віцэ-прэм'ер.

Пры гэтым ён адзначыў, што, па дадзеных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, медыцына ў свеце губляе 20-40% ад неабгрунтаваных выдаткаў. "Я думаю, што ў Беларусі прыкладна такая ж сітуацыя", – выказаў меркаванне Тозік.

У сувязі з гэтым віцэ-прэм'ер падняў пытанне аб "суфінансаванні людзьмі аказваемай ім бясплатнай меддапамогі". "Людзі не разумеюць рэальнага кошту медыцынскіх паслуг. У нас пры колькасці насельніцтва каля 10 млн чалавек цяпер матэрыяльныя даброты вырабляюць 2,5 млн чалавек, яны павінны ўтрымліваць 7,5 млн. астатняга насельніцтва. Гэта спараджае ўтрыманскія настроі і перакананасць у тым, што за сваім здароўем чалавек павінен сачыць не сам, а дзяржава, медыкі", – сказаў Тозік.

***"Інтэрфакс".***



# РОССЫП ЧАРОЎНЫХ МЕЛОДЫЙ

## Праграма XVII Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік"

**13 чэрвеня (пятніца)**

**15. 00** – Адкрыццё фотавыставы "Горад. Гісторыя. Людзі".
*Выставачная зала Дома рамёстваў.*

**16. 00 – 17. 00** – Літаратурнае свята "Паэтаў спеўная душа".
*Канцэртная зала па вул. Чырвонаармейскай.*

**18. 00 – 19. 20** – Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля песні і танца Грузіі "Аджарыя".
*Палац культуры па вул. Станкевіча.*

**21. 00 – 01. 00** – Маладзёжная акцыя "Мой горад. Мая краіна".
*Гарадскі парк.*

**14 чэрвеня (субота)**

**13. 00 – 14. 00** – Прэс-канферэнцыя з кіраўнікамі дэлегацый, членамі аргкамітэта, прадстаўнікамі СМІ.
*Зала пасяджэнняў Пастаўскага райвыканкама.*

Адкрыццё памятнага знака, прысвечанага сяброўскім сувязям гарадоў-пабрацімаў.
*Плошча імя Леніна.*

**14. 00 – 20. 00** - "Горад майстроў" з удзелам народных майстроў Віцебскай вобласці.
*Плошча імя Леніна.*

**14. 00 – 16. 00** - Тэатралізаваны канцэрт "Детство – планета мечты" з удзелам дзіцячых творчых калектываў.
*Плошча імя Леніна.*

**16. 00 – 18. 00** – "Спадчына зямлі пастаўскай". Канцэрт народных калектываў Пастаўшчыны.
*Плошча імя Леніна.*

**15. 00 – 18. 00** – Традыцыйны конкурс калектываў і асобных выканаўцаў на народных інструментах "Хто каго?".
*Палац культуры па вул. Станкевіча.*

**17. 30 – 18. 30** - Тэатралізаванае прадстаўленне "Музыка беларускіх палацаў і сядзіб" з удзелам ансамбля салістаў Белдзяржфілармоніі "Класік-Авангард".
*Усходні фасад Палаца Тызенгаўза.*

**16 00 – 20. 00** – Раённы агляд-конкурс сельскіх панадворкаў "Пастаўшчына гасцінная".
*Плошча імя Леніна.*

**17. 00 – 17. 30** – Урачыстае адкрыццё новых экспазіцый філіяла Пастаўскага раённага краязнаўчага музея.
*Палац Тызенгаўзаў.*

**20. 00 – 21. 00** – Урачыстае адкрыццё фестывалю "Кірмаш народных талентаў".
*Плошча імя Леніна.*

**21. 00 – 22. 00** – Музычная праграма з удзелам творчых калектываў Беларусі.
*Плошча імя Леніна.*

**22. 00 – 23. 45** – Музычна-тэатралізаванае прадстаўленне "Пастаўскі баль" з удзелам замежных калектываў. Выступленне тэатра агню "Мagратэя".
*Плошча імя Леніна.*

**23. 45** – Святочны феерверк.
*Плошча імя Леніна.*

**23. 50 – 02. 00** – Забаўляльная праграма для моладзі з удзелам лепшых дзіджэяў Віцебскай вобласці.
*Плошча імя Леніна.*

**15 чэрвеня (нядзеля)**

**09. 30 – 11. 00** – Канцэрт класічнай музыкі.
*Пастаўскі касцёл св. А. Падуанскага.*

**10. 00 – 15. 00** – Выстава-продаж вырабаў народных майстроў Віцебскай вобласці.
*Гарадскі парк.*

**12. 30 – 13. 00** – Тэатралізаванае шэсце ўдзельнікаў і гасцей фестывалю.
*Плошча імя Леніна – амфітэатр.*

**13. 00 – 15. 00** – Заключны гала-канцэрт удзельнікаў XVI Міжнароднага фестывалю народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік".
*Гарадскі парк.*

*Сардэчна запрашаем на музычны фестываль!*
***Арганізацыйны камітэт.***

# Літаратурная вечарына ў Германавічах



**На здымку:** выступае фальклорны гурт «Варган» з Наваполацку.

**У вёсцы Германавічы Шаркаўшчынскага раёна ў суботу 31 траўня прайшла літаратурная вечарына, прысвечаная памяці Васіля Быкава, 90-годдзе з Дня нараджэння якога будзе адзначацца 19 чэрвеня.**

■ **Зміцер Лупач**

Арганізавала мерапрыемства кіраўнік культурна-асветніцкага Цэнтра імя Язэпа Драздовіча Ада Райчонак. У сваім уступным слове яна нагадала прысутным пра асобу Васіля Быкава, пра свае стасункі з ім. Адзначыла выступоўца і тое, што ў апошнія тры месяцы пайшлі з жыцця тры паэты, з якімі ў яе былі добрыя сяброўскія адносіны. Гэта Рыгор Барадулін, Давід Сімановіч і Генадзь Бураўкін.

Як раз у гэты дзень у Мінску адбывалася пахаванне Генадзя Бураўкіна, які памёр 30 траўня. Прысутныя ўшанавалі яго памяць хвілінай маўчання.

Пасля выступілі мясцовыя паэты, якія прачыталі свае вершы. Першай выступіла Людміла Ардынская, якая прачытала свой верш, прысвечаны роднай мове. У сваім вершы паэтка сцвярджае, што без мовы няма народу, што мы павінны зберагчы гэты дар, які нам дастаўся ад продкаў.

Надзея Паляк прачытала верш, прысвечаны Васілю Быкаву. Пасля Міледзій Кукуць прачытаў верш, прысвечаны Міхасю Райчонку, які ён напісаў у гэты дзень адмыслова для гэтай вечарыны. Верш пачынаецца такімі радкамі:

*Зноў чайкі лунаюць над плынню рачною,*
*Іх крыкі разносяцца ўвысь над Дзісною,*
*З журбою на золку як быццам маляся*
*Зычна вітаюць: Міхась, Міхась, Міхась!!!*

Нагадаем, што пісьменнік і этнограф Міхась Райчонак рана пайшоў з жыцця, яму было толькі дваццаць шэсць, але за сваё кароткае жыццё ён паспеў шмат зрабіць для беларускага Адраджэння.

Напрыканцы выступіла кіраўнік Шаркаўшчынскай творчай суполкі "Світанак" Кацярына Сосна. Яна коратка распавяла пра дзейнасць сябраў суполкі, а потым прачытала свой верш пра родныя мясціны. У гэтым вершы гаварылася пра прыгажосць нашых краявідаў, пра тое, як мы павінны імі даражыць.

Потым адбыўся канцэрт народнай музыкі, дзе выступіў фальклорны гурт "Варган" з Наваполацку пад кіраўніцтвам Вольгі Емяльянчык. Калектыў выканаў беларускія народныя песні, якія яны сабралі падчас этнаграфічных вандровак па розных мясцінах Беларусі. Спевы пра жніво, пра свята Тройцы, пра каханне дзяўчаты выканалі памайстэрску, чым заслужылі апладысменты гледачоў.

Выступілі таксама хлопцы з Мінску Раман Яраш і Віктар Сямашка, якія прадставілі ігру на народных інструментах. Свае песні пад гітару выканаў Стась Сілка з Віцебску.

На мерапрыемстве прысутнічалі жыхары Шаркаўшчыны і раёна, госці з Наваполацка, Мінска, Глыбокага.

На мерапрыемстве гучала выключна беларуская мова. Прысутныя выказалі словы ўдзячнасці арганізатару мерапрыемства Адзе Райчонак за яе працу, за тое, што тут яны адчулі сябе сапраўднымі беларусамі.

# З надыходам цяпла актывізаваліся браканьеры

**Наступіла доўгачаканае лета, знятыя амаль усе абмежаванні на лоўлю рыбы, аднак аматарам рыбалкі неабходна ведаць, што ў чэрвені ўступаюць у дзеянне або працягваюць дзейнічаць некаторыя забароны і абмежаванні. Так, у чэрвені месяцы забаронена лоўля сама звычайнага з 1 чэрвеня па 1 ліпеня, рака вузкапалага па 15 ліпеня ўключна.**

■ **А.В. Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

З надыходам цяпла рэзка павялічылася колькасць парушэнняў правілаў рыбалоўства, лоўля рыбы тролінгам* на забароненых для гэтага вадаёмах, стаянка і мыйка аўтатранспарту, выкідванне смецця.

Працягваюць мець месца факты браканьерства.

17 траўня на рацэ Мядзелка паблізу в. Койры каля 15 гадзін супрацоўнікамі міжраённай інспекцыі затрыманы жыхар г. Паставы, які ажыццяўляў здабычу рыбы сеткамі, матэрыялы накіраваныя ў раённы суд. Раней, у красавіку месяцы дадзены грамадзянін затрымліваўся супрацоўнікамі інспекцыі за незаконнае паляванне на гусей. Ён падвергнуты штрафу, пазбаўлення права на паляванне.

Таксама 17 траўня каля 16 гадзін паблізу ракі Лучайка затрыманы жыхар в. Кураполле з забароненым прыладай рыбалоўства – сеткай. Матэрыялы накіраваны ў раённы суд.

24 траўня 2014 года каля 5 гадзін раніцы супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі паблізу ракі Ласіца Пастаўскага раёна ва ўрочышчы Лашукі затрыманы жыхар г. Мінска грамадзянін Н., які перавозіў у сваёй аўтамашыне забароненую прыладу рыбалоўства – пад'ёмную сетку, матэрыялы накіраваныя ў раённы суд.

Раніца 28 траўня выдалася ветранай, надвор'е пачало рэзка мяняцца. Жыхар вёскі Слабада Глыбоцкага раёна грамадзянін Н. з самай раніцы думаў, як бы пахмяліцца, галава баліць, лёгкія дрыжыкі прабіваюць цела. Яшчэ не было і сямі гадзін раніцы, як у госці да Н. зайшоў яго шчыры сябар П. і прапанаваў выйсце з гэтага становішча. Пётр, назавем нашага героя так, яшчэ з вечара паставіў сетку на возеры Шо, каб рыбкі злавіць, ды ў выніку і з раніцы галаву падлячыць, прадаўшы рыбу, бо купцы на яе заўсёды знойдуцца.

Вось і прапанаваў Пётр сябру Колю аказаць дапамогу ў лоўлі і продажы рыбы. Ну а затым і падлячыць сябра можна будзе, ды і самому пахмяліцца не пашкодзіла б. Узяўшы ровары, сябры хуценька накіраваліся на возера. Смела ўзяўшы лодку, нягледзячы на забарону яе выкарыстання ў дадзены перыяд, Пётр і Мікалай выплылі на возера і знялі сетку. Рыбалоўаматар, які знаходзіўся непадалёк, зрабіў сябрам заўвагу, але яны ж былі ўдваіх і што ім да той заўвагі, трубы ж гарэць. Ўлоў аказаўся нядрэнны: 15 карасёў залатых вагой амаль 10 кг, можна прадаць і нядрэнна зарабіць. Толькі не ведалі сябры, што ўсе іх дзеянні кантралююць супрацоўнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі, якія і затрымалі няўдачлівых рыбаловаў прама каля лодкі. Шкода, прычыненая прыродзе, склала 13 млн. 680 тысяч рублёў. Вырашаецца пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы. Дарэчы, раней адзін з сяброў ужо быў судзімы за браканьерства ды мабыць ўрок не пайшоў яму на карысць. Ну што ж, паўтарэнне – маці вучэння. Парушальнікаў чакае штраф, а магчыма і пазбаўленне волі тэрмінам да 3 гадоў.

Таксама паведамляем ўсім рыбаловам-аматарам, што з 26 чэрвеня 2014 года ў дзеянне ўступаюць новыя Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства, аб усіх зменах у Правілах міжраённая інспекцыя будзе інфармаваць грамадзян у наступных нумарах газеты.

**Аб усіх фактах браканьерства просім Вас паведамляць у Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і расліннага свету па тэлефонах: 8-02156-2-86-70 або 2-80-30, мабільныя 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.**

*Тролінг — метад рыбнай лоўлі з рухаючагася маторнага плаваючага сродка (лодкі або кацера).




# Апошні званок у Дунілавіцкай школе

■ **Яўген Самсонаў**

**Як і па ўсёй краіне, 31 траўня ў Дунілавіцкай сярэдняй школе, што на Пастаўшчыне, празвінеў апошні званок.**

Гэта свята радаснае, а для выпускнікоў, іх бацькоў і настаўнікаў адначасова з гарчынкай суму. Бо дзяцінства скончылася і ў хуткім часе адзінаццацікласнікі, бы тыя птушаняты, выпырхнуць з родных сцен школы і бацькоўскага дома, каб акунуцца ў вір самстойнага жыцця.

З нагоды заканчэння навучальнага года на ўрачыстай лінейцы выступіў дырэктар школы Васіль Аляксандравіч Бульбяноў. Ён павіншаваў вучняў з заканчэннем вучэбнага года і ўручыў узнагароды лепшым вучням, сярод якіх былі і пераможцы школьных Алімпіяд. Сярод узнагароджаных былі і выпускнікі – Віялета Кароль і Максім Мурзіч.

З вуснаў класнага кіраўніка выпускнога класа Сяргея Аляксеевіча Бамбізава з хваляваннем гучалі шчырыя пажаданні поспехаў сваім выхаванцам у здачы выпускных экзаменаў, упэўненасці падчас выбару шляху ў далейшым самастойным жыцці.

Кацярына Уладзіміраўна Кухальская ад імя бацькоўскага камітэта гэтай школы са шчырасцю і хваляваннем падзякавала педагагічнаму калектыву за ўсё тое добрае, вечнае, светлае, што далі педагогі дзецям. Вучні, у сваю чаргу, у знак удзячнасці літаральна задарылі сваіх любімых настаўнікаў вялікімі і прыгожымі букетамі кветак.

Права даць апошні званок было прадастаўлена вучню 11 класа Антону Шубко і вучаніцы 1 класа Машы Гваздовай.

